

# У школы на ўскраіне — асаблівая місія

*Нядаўна ў мінскай сярэдняй школе № 185 з мастацкім ухілам адбыўся пленэр. Дзіцячыя работы, якія можна было там бачыць, уражвалі сваёй разнастайнасцю і фантазіяй. А між тым усё ў гэтай школе толькі пачынаецца...*

Размешчаная на сталічнай ускраіне ў мікрараёне "Кунцаўшчына", яна спаўна паспела зведаць усю "прывабнасць" свайго ўскраіннага становішча. Мікрараёны ж у вялікіх гарадах забудоўваюць так, што пра дзяцей, як быццам, не дужа і дбаюць. Тое, што гэтак патрэбна ім — палацы, спартыўныя збудаванні, кінатэатры, выставы, паркі — усё застаецца ў цэнтры. А на ўскраінах — шэрыя "каробкі", застаўленыя машынамі двары... І вуліца!

Перад школай стаяла задача адцягнуць увагу дзяцей ад вуліцы, заняць іх вольны час чымсьці карысным. І калі тры гады таму прыйшоў новы дырэктар Канстанцін Уладзіміравіч Лаўрыновіч, вырашылі: быць школе з мастацкім ухілам. І напрамак выбралі — народная творчасць.

Сёння, калі ўваходзіш у мастацкі корпус школы, зазіраеш у акуратныя майстэрні, разглядваеш прыгожыя дзіцячыя тварэнні, — здаецца, што гэты трохгадовы шлях быў нескладаным. Надумалі — здзейснілі. Толькі потым становіцца ясна, што гэты працэс — здзяйсненне! — тут пастаянны. А лёгкасць і натуральнасць, з якой абсталяваны кабінеты і майстэрні, — вынік апантанай працы многіх людзей.

Была будоўля — самі паклалі чатыры сцяны з цагельнай кладкай, тынкоўкай і аклейкай шпалерамі. А колькі гадзін, дзён ці тыдняў было аддадзена дызайнерскім работам, каб напоўніць мастацкі корпус творчай атмасферай, — нагогул не злічыць. Але цяпер ужо пабытавыя праблемы адышлі на другі план, і можна больш надаваць увагі творчасці.

Дзеці ў школе займаюцца керамікай, макрамэ, саломкай, мазаікай, ткацтвам, роспісам па шкле... Ёсць тут свой лялечны тэатр, дзе ўсе лялькі зроблены дзіцячымі рукамі. А з наступнага года плануецца ўвесці пляценне з лазы і бяросты.

Безумоўна, за кожным відам мастацкай творчасці стаіць асоба педагога, яго талент ствараць і талент вучыць. У 185-ю школу прыйшлі працаваць вельмі заслужаныя ў галіне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва людзі — у асноўным выпускнікі Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута (цяпер Акадэмія мастацтваў) і мастацка-графічнага факультэта Віцебскага універсітэта. Прозвішчы многіх з іх — Валянціны Іваньковай, Вольгі Грыдзінай, Наталлі Сухаверхавай, Даны Астраух, Галіны Левінай — добра вядомыя ў краіне. Гэта прафесійныя, вельмі вопытныя мастакі, якія прыйшлі ў школу, каб перадаць сваё майстэрства іншым.

— Зараз бацькі імкнуцца аддаць дзяцей у школы з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы, — гаворыць намеснік дырэктара па мастацкім выхаванні сярэдняй школы № 185 Таццяна Гаўрылаўна Мазепіна. — Але англійскую мову пры жаданні і неабходнасці можна вывучыць за паўгода. Калі ж у чалавека не закладзена культура — гэта так хутка не паправіш. Густ, такт, манеры, культуру трэба развіваць з дзяцінства.

Перад школай на ўскраіне стаіць асаблівая задача. І каб не нараджала шэрасць наваколля шэрасці ў дзіцячых душах і думках, школа № 185 і стала такой — творчай і не сумнай.

Сёлета ў гарадскіх і раённых конкурсах Рэспубліканскага фестывалю народнай творчасці "Сузор'е" вучні 185-й сярэдняй школы з мастацкім ухілам сталі лаўрэатамі ва ўсіх сваіх намінацыях.

З першых дзён навучання ў гэтай школе дзеці вучацца разумець і ствараць прыгожае. Выяўленчае мастацтва вельмі шматграннае з пункту гледжання развіцця чалавека. Сёння дзеці натхнёна працуюць над вырабам габеленаў і дыванкоў. А праз гады яны, напэўна, гэтак жа — творча, з душой — будуць будаваць цудоўныя дамы, утульныя школы. І чысты свет вакол сябе.

**Галіна СІДАРОВІЧ.**

НА ЗДЫМКУ: Алена Сяргееўна Бронская вучыць дзяцей незвычайнай тэхніцы мазаікі з рознакаляровай яечнай шкарлупіны.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

# "Галоўнае – быць патрэбным у гэтым свеце", – такое жыццёвае крэда першай лэдзі Беларусі

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

таніна, і ўсё часцей успамінаюцца старыя добрыя часы.

**— Ведаеце, ёсць такая дзіцячая кніга "Прыгоды ў Белавежскай пушчы". Вядома, з палітыкай яна не пераклікаецца і напісана задоўга да вядомых падзей, але ёсць там выраз, які сугучны з адменай сацыялізму: "Пад'ём! Будзем засвойваць новую эпоху". Назву гэтай эпохі толькі што далі вы — блытаніна. Але прытрымліваючыся запэўнівання, што жадаючы адрасціць бараду спачатку здаецца няголеным, чакаю ветру перамен у лепшы бок.**

— Я таксама перакананa, што гэтая палітычна непісьменная памылка неўзабаве будзе выпраўлена.

**— Паэт пісаў: "Люблю парламент я, люблю я прения, но не люблю я преть до одурения". Упэўнена, што вам прапаноўвалі вылучыць сваю кандыдатуру не толькі па дыстрыкту, дзе вы жывяце, але і іншыя акругі былі ў вас зацікаўлены. А як вы самі ставіцеся да дэпутацтва?**

— Што да мяне — абыякава. Я часам з работы прыходжу настолькі маральна абяссіленай, што ўжо нічым не магу заняцца нават дома.

**— Гледзячы на маладое пакаленне, многія ўжо гавораць, што ў нас няма будучыні. Калі мамы і таты сённяшніх падлеткаў жылі, магчыма, у адноснай, але стабільнасці, то апошнія сёння нават не на ростанях.**

— Я згодна з вамі. Сёння як пра звычайнае гавораць пра злачыннасць, наркаманію, алкагалізм і дадаюць сюды слова "дзіцячая". Няўжо клопат пра маладое пакаленне адышоў на задні план? Я не гавару, што ў нас у раёне гэтых з'яў няма. Дакацілася хваля і сюды, і таму ўвагі падлеткам мы надаём шмат. Стараемся, каб дзеці заўсёды былі пад прыглядам дарослых. З бацькамі праводзім гутаркі. Робім усё, каб для школьнікаў падчас канікулаў арганізаваць экскурсіі. Вядома ж, сёння такія паездкі дорага каштуюць і частымі іх, як раней, не зробіш, але яны ёсць. Школы не толькі рамантуем, але і па магчымасці будуем новыя. І вельмі вялікі акцэнт апошнім часам мы сталі рабіць на гуртки па інтарэсах, якія павінны весці здольныя людзі, якія разумеюць дзіцячую псіхалогію.

**— Вы маеце на ўвазе альтруістаў?**

— Праца гэтая павінна аплачвацца і не мізэрнымі падачкамі. А альтруізм жа кіраўніка будзе заключацца ў тым, колькі часу ён палічыць патрэбным праводзіць са сваімі паслядоўцамі. Тут галоўнае "загрузіць" час дзяцей, каб на гультайства ў іх ні хвіліны не было. Міліцыя таксама ў гэтым пытанні не павінна здымаць з сябе адказнасці — сваімі паводзінамі прадстаўнікі органаў павінны быць прыкладам для пераймання маладому пакаленню.

**— Спадзяюся, вы не будзеце адмаўляць — пры гэтай рабоце абавязкова трэба ўлічваць, што інтарэсы сучаснай моладзі вельмі розняцца ад мінулага часу, і кіраўніка не будуць крытыкаваць, калі ён з малалеткамі нараўне размаўляе. У мяне быў выпадак, калі арганізатара такога клуба абвінавацілі ў разбэшчванні моладзі. А таму, што дзяўчынка выканала ролю Паўлінкі ў п'есе Янкі Купалы "Паўлінка". Удумайцеся ў сказанае: "Нейкае горкае дзіця Паўлінку сыграла! Жах, чаму дзяцей вучыць! Ды за гэта судзіць трэба!" Маленькай актрысе ў той час было шаснаццаць гадоў. А з гэтым творам знаёмяцца ў школе і вучняў водзяць на прагляд гэтага спектакля ў тэатр.**

— Я не буду каменціраваць абуральную недалёкасць крытыканаў — а самі яны што зрабілі, каб сённяшняя моладзь у будучыню верыла?.. Той час, у які выхоўвалася я, рэзка адрозніваецца ад сённяшняга. Хаця ён і больш цывілізаваны за мінулы, — мы не ведалі тады камп'ютэраў, відыкаў, іншамарак, аднак дабрыні, добразычлівасці, мэтанакіраванасці ў нас было больш. Я выхавана на ідэях Леніна і непаўнацэннасці ад гэтага не адчуваю. Мая маці — педагог, але яна ніколі не насаджвала свае погляды вучням. Яна ўмела іх выслухаць і нярэдка пагаджалася менавіта з іх довадамі. Калі ж памылковасць выказванняў была відавочнай, мама тлумачыла гэта спрачальніку і рабіла гэта так тактоўна, што ён не станавіўся пасмешышчам у класе. Будучы завучам школы, яна заўсёды дапамагала маладым спецыялістам. Пры гэтым яна старалася, каб настаўнік не пераймаў яе манеры, а шукаў свае шляхі выкладання. Крытыкаваць чужую працу могуць толькі абмежаваныя людзі, дарэчы, такія дзеячы адмаўляюць і "старую школу", ад вопыту якой адмаўляцца нельга.

**— Ужо калі вы ўспомнілі Леніна, то я нагадаю, што ён таксама не заклікаў усё разбураць. Дадзенае ім агульнавядомае вызначэнне камунізму гучыць на самай справе так: "...электрыфікацыя плюс пруская арганізацыя трэстаў, плюс амерыканская сістэма адукацыі"... Знайшоўся "разумнік" і сказіў сэнс разумнага наказу... дарэчы, калі мы закранулі той час, як вы ставіцеся да адраджэння рэлігіі, ганенне на якую пачалося пры Савецкай уладзе?**

— Станоўча. Людзі ніколі не забывалі Бога і нават работнікі партапаратаў паціху хрысцілі сваіх дзяцей. Ніколі не было тайнай, што старыя людзі захоўвалі пасты, а царкоўныя святы адзначаліся ўсімі: Вялікдзень, Масленіца, Вадохрышча — ніякія забароны не дзейнічалі. У той перыяд таксама былі дзеючыя цэрквы, і іх наведвалі веруючыя. Маё перакананне, што ні атэізм, ні рэлігію насаджваць нельга — кожны вольны прытрымлівацца сваіх перакананняў, толькі ўсё павінна быць у разумных рамках. Вы ж не будзеце адмаўляць, што грэшнікі ёсць ва ўсіх веравызнаннях?

**— Такі грэх я сапраўды на сябе не вазьму. Нават Тата Рымскі ў Даравальную Нядзелю прасіў у Бога міласці за грахі, дапушчаныя царквой у адносінах да людзей, і заклікаў прыхаджан стаць больш міласэрнымі адзін да аднаго.**

— Я прытрымліваюся думкі, што да навакольных трэба ставіцца так, як ты хочаш, каб яны ставіліся да цябе. Тады азлобленасць не будзе валодаць светам і людзьмі, а яе, на жаль, сёння шмат... Па Бібліі Бог — гэта дабрыня. А для таго, каб яна была ў сэрцы, не абавязкова наведваць царкву ці рабіць ганенні на яе.

**— Вы маеце рацыю — памылкі продкаў і вопыт стагоддзяў нішто для тых, у каго ў душы няма гэтага пачуцця. Нам жа з вамі застанецца спадзявацца, што нас пачуюць.**

— Кожны павінен пачуць самога сябе. Што датычыцца мяне, то я веру ў Бога. Веру ў Яго бязмежную міласць да людзей. У царкву хаджу не толькі ў святы, але і на нядзельную службу. Разам з настаўнікамі адной з нашых школ выкладаю ў Нядзельнай школе. Пасля такіх заняткаў на душы лёгка і светла. І так хочацца, каб усе людзі, а асабліва дзеці, верылі ў Бога, былі больш добрымі і шчодрымі.

**— Слухаючы вас, мне чамусьці падалося, што вы любіце казкі. А вось мне некалі зрабілі вымову, што я дарослым рэкамендую да іх звяртацца. Вы што-небудзь можаце наконт гэтага сказаць?**

— Толькі тое, што казкі я сапраўды вельмі люблю. І сёння мне цікава іх чытаць. У казках жа — людская мудрасць. Яны вучаць дабру, вучаць жыць сумленна і справядліва. А хіба гэта дрэнна для любога ўзросту?

**— Ну і апошняе пытанне. Усім хацелася б, але не ўсім дадзена стаць першай лэдзі. Як вы адчуваеце сябе ў гэтай ролі?**

— Не ведаю, як гэта ўспрымаюць людзі, але я лічу, што няма асаблівай розніцы паміж проста жанчынай і лэдзі. Вось толькі ў першай лэдзі больш адказнасці за свае справы і ўчынкі. Для мяне самае галоўнае — павага людзей: усведамленне таго, што я вырасціла добрых, дастойных сыноў, што я патрэбна ў гэтым свеце. Увогуле ж я лічу сябе настолькі звычайнай жанчынай, што пра мяне можна і не пісаць.

**Ларыса ВЛАДЫКА-РЫХЦІКАВА,**
**журналіст, акрэдытаваны пры УУС Мінаблвыканкама.**

# Урок фізічнай культуры: якім ён павінен быць

***Фізічная культура з'яўляецца важнай часткай навучальнага працэсу ў школе. Яе значэнне ў развіцці дзяцей, у фарміраванні здаровага, падрыхтаванага маральна і фізічна маладога пакалення немагчыма пераацаніць. Але на што павінен быць накіраваны ўрок фізічнай культуры, якую функцыю ён павінен выконваць?***

Пачнем з тых мэтаў, якія ставяцца падчас урока фізвыхавання. Мэты даволі выразна акрэслены ў тлумачальнай запісцы да "Праграмы па фізічнай культуры", апублікаванай у 1999 годзе. Гэта фарміраванне ў вучняў ідэалу фізічна дасканалай асобы, уключэнне іх у актыўную фізкультурную дзейнасць, накіраваную на фізічнае і духоўнае ўдасканаленне, навучанне вучняў неабходным ведам, жыццёва важным рухальным уменням і навыкам, а таксама фарміраванне і замацаванне гігіенічных навыкаў. Мэты выдатныя, але, на жаль, дрэнна рэалізуюцца на практыцы.

Напрыклад, такая мэта як "фарміраванне ідэалу фізічна дасканалай асобы", на наш погляд, не дасягаецца зусім, ды выкладчыкі да гэтага асабліва і не імкнуцца. Да таго ж, для выпрацоўкі такога ідэалу трэба каб было з каго браць прыклад, а нашы настаўнікі фізічнай культуры самі часта да яго не дацягваюць (курэнне і лішняя вага — з'ява сярод іх вельмі распаўсюджаная).

Тая ж карціна назіраецца і з рэалізацыяй іншых мэтаў. Нават уключэнне вучняў у актыўную фізкультурную дзейнасць адбываецца не заўсёды паспяхова. На працягу першай і чацвёртай чвэрцяў вучні не столькі займаюцца спортам, колькі чакаюць сваёй чаргі на здачу так званых нарматываў фізічнай падрыхтаванасці, закліканых выявіць ступень іх фізічнага развіцця. Наяўнасць гэтых нарматываў, акрамя ўсяго іншага, наводзіць на думку, што ўсё ж асноўнай мэтай заняткаў фізічнай культурай у школе з'яўляецца зусім не тое, што дэкларуецца ў праграме, а падрыхтоўка да выканання на адзнаку пэўных практыкаванняў. Тады тым больш даводзіцца прызнаць неэфектыўнасць урокаў фізічнай культуры. Для гэтага дастаткова зазірнуць у любы класны журнал.

Што ж неабходна зрабіць, каб урок фізічнай культуры стаў больш эфектыўным? На нашу думку, для гэтага трэба ў корані перагледзець яго мэты і адпаведным чынам змяніць змест.

Урок фізічнай культуры павінен быць арыентаваны на ўключэнне вучняў у актыўную фізкультурную дзейнасць і закліканы, перш за ўсё, здымаць у дзяцей напружанне, разумовую стомленасць, пераключаць іх з інтэлектуальнай працы на фізічную. У сувязі з гэтым неабходна, каб заняткі фізічнай культурай праводзіліся штодзённа, трэцім, чацвёртым ці ў крайнім выпадку пятым урокам і з'яўляліся своеасаблівым перапынкам паміж дысцыплінамі, звязанымі з разумовай дзейнасцю. Такім чынам будзе дасягнута аптымізацыя навучальнага працэсу, і вучыцца школьнікам стане намнога лягчэй. Зразумела, што гэта магчыма толькі пры зніжэнні загружанасці вучняў і пры ўвядзенні дыферэнцыраванага навучання.

Трэба таксама змірыцца з тым, што немагчыма за адну вучэбную чвэрць падрыхтаваць з дзіцяці гімнаста, стаера, валейбаліста ці лыжніка. Таму немэтазгодна класці ў аснову заняткаў выпрацоўку ў вучняў спартыўных навыкаў. Вядома ж, прывіваць іх трэба, але не варта на гэтым зацыклівацца. Прызнаючы асноўнай мэтай уключэнне школьнікаў у фізкультурную дзейнасць, пры арганізацыі ўрока неабходна ўлічваць і жаданні дзяцей. Няхай лепш хлопчыкі гуляюць у футбол ці валейбол, а дзяўчынкі займаюцца, напрыклад, аэробікай, чым накручваць кругі на школьным стадыёне. Вынік, фактычна, атрымліваецца адзін і той жа, але затое дзецям будзе цікава.

> **Неабходна адмяніць і ацэнку фізічнай падрыхтаванасці вучняў, і тыя нарматывы, на аснове якіх выстаўляецца адзнака, бо гэта ставіць школьнікаў у вельмі жорсткія рамкі, якія зусім не ўлічваюць індывідуальнасць і асаблівасці развіцця.**

Неабходна адмяніць і ацэнку фізічнай падрыхтаванасці вучняў, і тыя нарматывы, на аснове якіх выстаўляецца адзнака, бо гэта ставіць школьнікаў у вельмі жорсткія рамкі, якія зусім не ўлічваюць індывідуальнасць і асаблівасці развіцця. Вучні павінны прабегчы, падцягнуцца, скокнуць (на адзнаку) і г.д. Выніковы бал грунтуецца на паказаных імі выніках.

Не сакрэт, што дзеці сёння кволыя, фізічна паслабленыя, і большасць іх проста не здольна выканаць тыя нарматывы, якія закладзены ў праграме. Узнікае пытанне: "А ці так ужо неабходна выпрабоўваць дзяцей такім чынам, калі дакладна вядома, што большая частка вучняў з нарматывамі не справіцца? Навошта дзяцей, якія па той ці іншай прычыне не могуць выканаць нарматываў, зневажаць перад аднакласнікамі (асабліва гэта датычыцца дзяцей з лішняй вагой)?". Да таго ж, зусім не ступень фізічнага развіцця з'яўляецца асноўным крытэрыем пры выстаўленні выніковай адзнакі.

Ну а калі здача нарматываў такая ўжо неабходная, то яна можа праходзіць у форме спаборніцтваў паміж паралельнымі класамі. Прычым школьнікі ўдзельнічаць у іх павінны добраахвотна, і ў тых відах спорту, якія выберуць самі. Такім чынам будуць улічвацца і фізічныя магчымасці дзяцей, і іх спартыўныя інтарэсы.

Што датычыцца выстаўлення адзнакі вучням, то гэта трэба рабіць, зыходзячы выключна з іх стараннасці, як, дарэчы, часта практыкуецца і сёння. У школьніка, які добра фізічна развіты, але не выконвае патрабаванняў настаўніка і займаецца "спусціўшы рукавы", не будуць паяўляцца пытанні пра тое, чаму яму тройка, а, скажам, Пятрову, які ні разу не падцягнуўся на перакладзіне, пяцёрка. У такім выпадку яму стане зразумела, што на ўроках фізічнай культуры патрабуецца адно, а ў спартыўных секцыях, дзе ўлічваюцца дасягнутыя вынікі, зусім іншае.

Важна адзначыць яшчэ адзін момант. Урок фізічнай культуры павінен быць абавязковым абсалютна для ўсіх вучняў. Зразумела ж, неабходна аддзяляць дзяцей з паслабленым здароўем і з адставаннем у фізічным развіцці і займацца з імі па індывідуальнай праграме, але яны абавязкова павінны наведваць заняткі разам з усімі. З такімі дзецьмі трэба працаваць спецыяльна, імкнучыся падцягнуць іх да ўзроўню іншых дзяцей, а не так, як гэта робіцца сёння, калі ім проста зніжаюць нарматывы.

Школьнікі ж, якія ўваходзяць у групу ЛФК, таксама не павінны праседжваць урокі фізічнай культуры на лаўцы. Для іх у гэты час трэба арганізоўваць заняткі лячэбнай фізкультурай у асобным памяшканні і са спецыяльна падрыхтаваным інструктарам.

Пры школах неабходна адкрыць секцыі па асноўных гульнёвых відах спорту (футбол, валейбол, баскетбол, гандбол), лёгкай атлетыцы, аэробіцы, дзе магчыма — па плаванні (да таго ж асаблівых матэрыяльных затрат на гэта не патрабуецца). І менавіта ў нагаданых секцыях вучні маглі б атрымліваць уменні і навыкі ў абраным відзе спорту. Вядома ж, што большасць дзяцей не набывае на ўроках фізічнай культуры нават мінімальных спартыўных уменняў.

Безумоўна, такія змяненні ў выкладанні фізічнай культуры нельга правесці без карэннай перабудовы ўсёй сістэмы сярэдняй адукацыі, але яны даволі хутка далі б плады ў выглядзе павышэння паспяховасці і паляпшэння здароўя дзяцей.

Аднак адзін пункт з гэтага артыкула можна было б рэалізаваць ужо сёння. Гэта адмена нарматываў і пераарыентацыя ўрокаў фізічнай культуры на інтарэсы дзіцяці, што павысіць і наведвальнасць заняткаў (а яна на сёння даволі нізкая), і іх эфектыўнасць.

**Ігар БУКРЭЕЎ,**
**аспірант кафедры педагогікі Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны.**

# "Падарым дзецям свята"

Такая дабрачынная акцыя прайшла ў Нацыянальным выставачным цэнтры Мінска. Яна была арганізавана Беларускім дзіцячым фондам пры непасрэднай падтрымцы і садзейнічанні ўпраўлення адукацыі Мінгарвыканкама. На тэатралізаваных прадстаўленнях студыйцы, дзеці-сіроты, інваліды, якія прыехалі з розных рэгіёнаў рэспублікі, прадэманстравалі свае творчыя дасягненні на выставах і канцэртах. Праведзены сустрэчы са знакамітымі беларускімі пісьменнікамі, мастакамі, кампазітарамі.

**Пётр НЕСЦЯРОВІЧ.**

# ДА ЎВАГІ ПАДПІСЧЫКА!

**Адпаведна дагаворам, заключаным з рэдакцыямі (выдавецтвамі), пры афармленні падпіскі прадпрыемствы сувязі ажыццяўляюць пасрэдніцкія паслугі па распаўсюджванню і дастаўцы, таму за нявыхад, несвоечасовы выхад з друку газет і часопісаў адказнасць перад падпісчыкам нясе рэдакцыя (выдавецтва).**

**Праверце правільнасць афармлення абанемента, на абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны. Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце ставіцца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

**Для афармлення падпіскі на газету ці часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай картачкай запаўняецца падпісчыкам чарніламі, разборліва, без скарачэнняў, у адпаведнасці з умовамі каталога.**

**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" выконваецца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**

Краязнаўства

# Пачнем з гісторыі свайго горада

***Усебеларуская турысцка-краязнаўчая экспедыцыя навучэнцаў "Наш край", якая стартавала ў 1992 годзе (цяпер здзяйсняецца яе III этап), красамоўна сведчыць аб пашырэнні краязнаўчага руху сярод падлеткаў і моладзі. Расце цікавасць школьнікаў да роднага краю, да спадчыны народа, а значыць, і іх адказнасць за свой край, яго гісторыю.***

Нашу Айчыну можна параўнаць з вялікім дрэвам з глыбокімі каранямі, а мы — лісце на яго галінках; калі мы з дрэвам, — жыватворныя сокі насычаюць нашы сэрцы, а калі мы адмаўляемся ад духоўнай спадчыны і разрываем повязь часоў, то засыхаем, як сохне сарванае з галінаў лісце.

З пачуцця здзіўлення пачынаецца пазнавальная цікавасць да родных мясцін. Паступова, праз заняткі па краязнаўстве, ствараюцца ўмовы для фарміравання асобаснай пазіцыі, маральных пачуццяў, этыкі паводзінаў, што можа стаць каардынатамі для каштоўнаснай, сэнсаўтваральнай арыентацыі дзіцяці. У звыклай жыццёвай прасторы яно вучыцца адкрываць новае, нязвыклае, але пры гэтым значнае, памятнае і, галоўнае, асобасна дарагое, любае. Экспедыцыя "Наш край" дае магчымасць адкрыць сваё месца ў свеце, а гэта мае на мэце вырашэнне вельмі важных задач, якія складаюць канцэпцыю педагагічнага выхавання: адказнае стаўленне да рэчаіснасці, што вынікае з пачуцця адзінства са светам, неадчужанасці, зацікаўленасці і суперажывання.

У праграме экспедыцыі мае месца і тэма **"Гісторыя праваслаўя ў Мінску"**. Гэта вельмі ўсцешна, бо гістарычная памяць кожнага хрысціянскага народа захоўвае ўспаміны (як захоўваем мы сямейныя альбомы і старыя фатакарткі) пра той час, калі на яго зямлю прыйшла хрысціянская вера. А месцы, дзе захаваліся хаця б некаторыя рэчыўныя сведчанні (у тым ліку храмы, абразы, святыя мошчы), набываюць характар святынь і з'яўляюцца мэтай паломніцтва. Людзі — вучоныя, аматары старажытнасцяў, якія цікавяцца гісторыяй, юныя і дарослыя даследчыкі сваіх традыцый — прыходзяць да гэтых месцаў з любоўю і пашанотай.

Нехта можа задацца пытаннем: а ці можа Мінск, сучасны мегаполіс, зацікавіць паломніка і гісторыка? Мяркуйце самі. Ужо больш як 1000 гадоў існуе праваслаўная царква ў Мінску. Горад з самага пачатку ўваходзіў у Полацкую епархію (утворана ў 992 годзе). За межамі ўсходнеславянскіх земляў Полацкае княства называлі "зямлёй гарадоў". Горад жа — гэта месца, дзе сцяна да сцяны будаваліся цэрквы, манастыры — своеасаблівыя адукацыйна-культурныя цэнтры, дзе былі школа, бальніца, прытулак, бібліятэка (часта са сваім унікальным зборам кніг), пазней — друкарня, розныя майстэрні. У такім горадзе людзі жылі насычаным культурным і царкоўным жыццём. Па сведчанні аднаго з сучаснікаў, "людзі ў гэтых мясцінах ад малога да вялікага, у тым ліку жанчыны і дзеці, нават сіроты, не толькі валодалі пачаткамі пісьменнасці, але і ведалі парадак царкоўных службаў, спеваў". Гэта значыць, жыхары Мінска, як і многіх іншых гарадоў Кіеўскай мітраполіі, былі даволі адукаванымі людзьмі са сваімі ўяўленнямі пра свет, месца чалавека ў ім, пра тайну быцця, сэнс чалавечых учынкаў. Можна ўявіць, якім выратавальным караблём шмат стагоддзяў таму з'явілася для знясіленага, адзінокага чалавека царква: давала яму надзею, апірышча, скіроўвала да дабра і любові. Таму гісторыя праваслаўя важная для нас.

Мы святкавалі летась 2000-годдзе хрысціянства. Цяжка ва ўсёй паўнаце ахапіць яго разнастайны ўплыў на жыццё, культуру, маральнасць. Але мы можам паспрабаваць узыходзіць ад малога да вялікага. Пачнём з гісторыі свайго горада. Экскурсіі такога накірунку могуць быць карыснымі як для настаўнікаў гісторыі, славеснікаў, так і для тых, хто цікавіцца мінулым роднага краю.

**Іна ШЫРКО,**
**настаўніца Бараўлянскай гімназіі.**

У школьным краязнаўчым музеі вёскі Сакольнічы Крычаўскага раёна шырока прадстаўлены побыт і звычкі мясцовага насельніцтва. Экскурсаводам часцей за ўсё выступае настаўніца беларускай мовы і літаратуры Святлана Белавусава.

НА ЗДЫМКУ: музей наведалі турысты з далёкага расійскага горада Валгаграда.

**Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА.**

